# У ІМЯ ПРАЎДЫ

*(працяг з 3-й бачынкі)*

бралі" пару сяброў Рады – праўда, у гарачцы забыўшыся пазбавіць становішча легальнага Старшыню і тых сяброў Рады, што з ім салідарызаваліся (усе няпрысутныя на сходзе), выбраных толькі пару месяцаў назад на звычайным Гадавым Агульным Сходзе Парахвіі. (3) На завяршэньне „перамогі" ўжо пазьней (9/V/80) новая „Рада" прымае „рэзалюцыю": прасіць архіепіскапа Мікалая ў Таронта, Канада, каб прыняў Парахвію ў Гайлэнд Парку пад сваю „апеку"...

Людзі, як людзі, маглі і ня ведаць, што ўсе гэтыя з паветра браныя „пастановы" і „рэзалюцыі" пазбаўлены ўсякай легальнай моцы, а таму зусім і ўсцэла нерэальныя. Тым ня менш яны вельмі небясьпечныя для далейшага існаваньня БАПЦ, якая тут на чужыне прадаўжае тысячалетнюю традыцыю беларускага праваслаўнага хрысьціянства. Мы не новаўтвораная нейкая сэкта. Мы не шукаем нейкіх радыкальных, новых формаў рэлігійнага жыцьця – яны нам дадзеныя здавён-даўна ад продкаў нашых і ад айцоў-будаўнікоў Усяленскай Царквы. Яны частка нашай народнай традыцыі, на якой мы імкнемся адбудаваць і ўтрымаць пры жыцьці творчы шлях нашага шматпакутнага Народу. Праўда, усяго гэтага людзі простыя маглі і ня ведаць, калі ішла ломка царквы на тым няшчасным сходзе ў Гайлэнд Парку. Але быўжа там увесь час прысутны сьвятар, той-жа Яноўскі, які добра ведаў, што людзі ў сваёй нясьведамасьці чыняць нячуваны гвалт спрадвечным асновам Царквы але, хоць і прысягаў на ўсё сьвятое, што будзе „прытрымоўвацца царкоўных правілаў і Статуту БАПЦ", ні словам не адазваўся, моўчкі згадзіўся з натоўпам... Гэтым ён ізноў, ужо другі раз дыскваліфікаваў сябе, як праваслаўны сьвятар. Незадоўга яго Ўладыка Андрэй выкідае з ліку сьвятарства БАПЦ.

Пасьля катастрофы ў Гайлэнд Парку лёс Царквы апынуўся ў руках арх. Мікалая і ён падвёў на ўсей лініі... Ці ён зразу ня скеміў, што робіцца, будучы пры сваей мізэрнай асьвеце чалавекам недалёкім, ці проста пад ціскам шатанскага тэрору струсіў..., цяжка сказаць. Адно пэўна, што як епіскап ён даўся па ўсіх швах, расклеіўся як перасохшая бочка, з якой апалі абручы... Атрымаўшы неверагодную просьбу ад тых гарачых галоў з Гайлэнд Парку, каб узяў іх пад сваю апеку, ён, замест абдаць іх кублам халоднае вады і паклікаць да парадку ды гэтым адразу абтушыць ачаг небясьпечнага пажару, нятолькі прымае тую просьбу ўсурёз, але асабіста едзе ў Гайлэнд Парк і пераймае Парахвію ў сваю Епархію „да часу выясьненьня пасьталага... непаразуменьня паміж парафіянамі тае Парафіі". Якое ён убачыў там „непаразуменьне" паміж парафіянамі так і невядома па сяньняшні дзень... Гэтым, нячуваным у гісторыі Царквы, крокам Мікалай прадрашыў свой лёс: умяшаньне епіскапа ў справы чужой епархіі сурова забараняецца як Канонамі, так і Статутам нашай Царквы.

Далейшыя падзеі ўсім вядомыя: пачаліся нелегальныя зьезды, на якіх прымаліся рэвалюцыйнага характару рэзалюцыі, выбіраліся нейкія „рады" – усё скіраванае супроць аўтарытэту Першагерарха БАПЦ, хоць і ня лёгка зразумець, што яму закідаецца і чаму. А душою ўсіх гэтых, часта дзікіх „пратэстаў", быў ня хто іншы, а той-жа арх. Мікалай. З травеня месяца 1981 г. пачаў ён рассылаць на ўсе бакі свае „пасланьні" да вернікаў БАПЦ, з яўнай мэтай выбяліць сябе, ачарніўшы Мітрапаліта. У няўклюжай гэтай пісаніне цалком праявілася яго інтэлектуальная бездапаможнасьць ды скрытае імкненьне паставіць сабе на службу факт людзкога неасьведамленьня.

Чырвонай ніткай цераз усе тыя „пасланьні" Мікалая праходзіць ягоны закід Мітрапаліту, што быццам пайшоў у сьвецкія суды шукаць справядлівасьці, зігнараваўшы Царкоўны Суд БАПЦ. Гэта запраўды клясычны закід невука, які бачыць сьвет вачыма прымітыва. Найперш, калі і дапусьціць на хвілінку, што паміж Мітрапалітам і Яноўскім было нейкае „непаразуменьне", дык зьвярнуцца да Царкоўнага Суду мог толькі Яноўскі; ён гэтага не зрабіў і ня думаў рабіць. А чаму? Вельмі проста: бо Яноўскі нікога не прызнае, ні Мітрапаліта, ні Царкоўнага Суду БАПЦ – таму ён выкінуты з нашай Царквы. Але найважнейшае, што ў Гайлэнд Парку ніякага „непаразуменьня" ня было. Там адбыўся адкрыты бунт пад правадырствам Яноўскага супроць аўтарытэту правячага Епіскапа і Першагерарха БАПЦ у выніку якога уваход у царкву для легітымнага кіраўніка Парахвіі, а. Івана Бруцкага, і для групы вернікаў быў заблякаваны. Гэта „непаразуменьне"? Гэта-ж гвалт, бандытызм! Пагвалчаньне цывільных правоў людзей, парушэньне супакою і парадку ў царкве не належаць да кампэтэнцыі Царкоўнага Суду; такія справы могуць разглядаць толькі сьвецкія суды, прысуды якіх апіраюцца на экзэкутыўную сілу дзяржаўнай улады. Царкоўны Суд ня можа навесьці парадак і вярнуць супакой у парахвіі, бо ня мае патрэбнай на гэта экзэкутыўнай сілы. Вось чаму Кіраўніцтва БАПЦ змушанае шукаць абароны ад бунтаўшчыкоў у сьвецкіх судох.

Далейшай „кветкай" у тых Мікалаевых „пасланьнях" ёсьць яго ўпартае непрызнаньне Епіскапа Ізяслава (Бруцкага). І гэта дзіўна, бо высьвячваючы Івана Бруцкага ў сьвятары сам-жа Мікалай цешыўся, што БАПЦ будзе мець другога епіскапа з Палесься!... Тут ізноў ён ставіць стаўку на людзкую (і, як відаць, сваю ўласную...) несьвядомасьць справы, бо нідзе, ні ў Статуце БАПЦ, ані тым больш у Канонах, ня сказана, што хіратанізаваць беларускага епіскапа могуць толькі Беларусы, а ніхто іншы. Каб так было, мы ніколі не заімелі-б свайго епіскапа! У запраўднасьці ўся гэта справа ня мае ніякага прынцыповага значэньня. Найважнейшае, каб хіратонія была кананічнай і толькі ў адносінах да гэтага важна, хто ў ёй прыняў удзел. У выпадку Ўладыкі Ізяслава тут ніякіх засьцярог быць ня можа, хоць Мікалай і стараецца прайсьці міма факту, што ў хіратоніі прынялі ўдзел ажно два Мітрапаліты – беларускі і украінскі – ды што прысутнічала на ёй, і пазьней на банкеце, больш за паў сотні вернікаў-Беларусаў. А што нічога ня ведалі пра яе бунтаўшчыкі і пакорныя служкі Сатаны – Богу дзякаваць!

Цікавым мамэнтам у тых „пасланьнях" Мікалая ёсьць яго крыклівая гатоўнасьць да згоды... Паводле яго ўсё, што трэба, каб вярнуць мір і цішыню ў нашы парахвіі, ёсьць каб ён, Мікалай, і Ўладыка Мітрапаліт сышліся разам, падпісалі дагавор і забыліся на ўсё, штобыло... Як бачым, чалавек гэты жыве адно нерэальнасьцямі, ілюзіямі: яму здаецца, што ўсё, чаго ён натварыў, пайшло з ветрам..., што нічога ня трэба адрабляць, на ўсё можна махнуць рукою і забыцца... Яму ніяк ня хочацца паверыць, што ўвесь гэты груз астаецца на рахунку яго да канца дзён ягоных, і пазьней...

Добра разумеючы няшчасьце тых, хто ня ў сілах даць адпор напасьцям Сатаны ды вымушаны яму пакарыцца і служыць..., мы ім спагадаем ад шчырага сэрца і заахвочваем, каб ні на хвілінку не пераставалі шукаць тае праўдзівае веры, што нясе ратунак і збаўленьне. Але гэта і ўсё... У прыватных зносінах мы можам пайсьці крыху далей – прабачыць ім зьнявагі і шкоды, прычыненыя нам асабіста. Але з Царквою справа зусім іншага парадку – гэта не прыватная асоба, а інстытуцыя, народнае дабро. Жыцьцё Царквы рэгулюецца спрадвечнымі традыцыямі, канонамі, статутамі, прысягамі. Дзе гэтыя ўстаноўкі пагвалчаныя, не памогуць ніякія „дагаворы", ці пагадненьні прыватнага характару паміж Герархамі. Каб захаваць поўнавартасьць Царква мае ачысьціцца ад тых пагвалчаньняў. На гэта ёсьць два спосабы: або вінаватыя пакаюцца і прымуць пакараньне прадбачанае законам, або яны пакінуць БАПЦ – дабравольна, ці прымусова ў сілу пастановы Сабору Епіскапаў. Паколькі арх. Мікалай не прызнаў сваіх памылак і злачынстваў, ані пакаяўся ў іх (наадварот, ён па сяньняшні дзень пакрывае бунтаўшчыка Яноўскага!), Сабор Епіскапаў БАПЦ быў змушаны вылучыць яго з ліку Герархаў БАПЦ. Паступіць інакш было зусім немагчыма, бо мы ня можам ігнараваць апініі іншых Цэркваў, якія ўважліва сочаць за тым, што дзеецца ў нас.

А што-ж па праўдзе ў нас такое робіцца? Сяньня, пасьля двух гадоў, ужо можна даць усякаму ясны адказ на гэта пытаньне: узьняўся бунт супроць Галавы Царквы ў адной парахвіі, дзе паявіўся сьвятар-бунтаўшчык; за „сваім" сьвятаром пайшлі некаторыя з парахвіян, кажуць навет бальшыня, а за ім ўва ўсю таўкатню ўскочыў і епіскап... Далёка і шырока паплыла зьедлівая агітацыя і падняліся „дзялкі" па ўсіх амаль парахвіях ды лавай пайшлі ў наступ... супроць хвароблівага старычка, супроць Мітрапаліта, супроць Галавы Царквы! Прычыны пытаецe? Вось тут і загвадка, бо аніякай ня бачым... Бо-ж узяць таго нягодніка-сьвятара з парахвіі Ўладыка Мітрапаліт нятолькі меў усякае права, але пры наяўных абставінах ён ніяк ня мог паступіць інакш, як мы бачылі вышэй.

Паўстае тады пытаньне: чаму рэвалюцыя? Што гэта за бунт такі, што чаўпецца ў нас вось ужо трэці год без дайпрычыны? Адказ на гэта зусім просты: прычына ёсьць і яна ведама таму, каму патрэбен гэты закалот, ды ня цяжка яе згадаць: зьнішчэньне дарагой нам усім Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне. Яна, відаць, косткай стала па-пярок у горле чырвонай Сатаны... Вось адкуль бярэцца тая доўгая пуга, якой (нябачна, але настойліва) паганяюцца табуны супроць нашага Ўладыкі.

Як-жа быць нам цяпер? Што рабіць у гэты сташны час? Наша найвялікшае заданьне, кажнаму паасобку і ўсім разам, захаваць пры Божай помачы нашу БАПЦ, што-б яно не каштавала! Толькі-ж не галёканьнем, ні ілжой, ані гіпакрызіяй, а ціхім, хоць і як скромным, але адважным і запраўдным чынам. А захаваць нашу Царкву мы мусім такой, якой мы яе пераналі ад тых, хто Яе адрадзіў – ні ў чым ня маем права Яе мяняць, ніякіх уступак Сатане, ані яго пакорным служкам. Вынікае гэта з самой дэфініцыі Царквы; усё, што уваходзіць у традыцыйнае паняцьце Царквы мусіць зьберагацца, інакш Царква перастае быць Царквою. За лікамі нам не ганяцца; многіх Сатана пагоніць прэч ад нас – туды ім і дарога. Трымацца свае МаціЦарквы можа толькі той, у каго стае на гэта сілы веры. У каго-ж яе няма, той раней ці пазьней адсеецца... Гэта як у Біблії пра тое зерне і пляву...

Хоць труба яшчэ не прагучэла, для многіх з нас Судны Дзень ужо пачаўся... Клічам тых, хто яшчэ валодае сабою: падымайцеся і ідзеце да вечнага дабра і сьвятла ў імя Праўды Божай – спакойна і ахвярна. Пакуль труба яшчэ не прагучэла...

# Юбілеі Мітрапаліта Мсьціслава

## 84 ГОД МІТРАПАЛІТУ МСЬЦІСЛАВУ

10 красавіка 1982 г. ў Саўт Баўнд Брук, Ню Джэрзі, ладзілася прыняцце на дзень народзінаў Мітрапаліта Мсьціслава Першагерарха Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы ды Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Дыяспоры.

На ўрачыстасьці прысутнічала шмат украінскага духавенства, сястрыцтва, брацтва, сям'я Мітрапаліта, Уладыка Ізяслаў ад БАПЦ, і госьці. Вітаючы Мітрапаліта з юбілеям, прамоўцы ўспаміналі ягоную палітычную, грамадзкую і рэлігійную працу на карысьць украінскаму народу.

Уладыка Ізяслаў у сваім прывітаньні падкрэсьліў вялікія заслугі Мітрапаліта Мсьціслава для УАПЦ і выказаў яму найшчырэйшую падзяку за ягоную братнюю дапамогу для БАПЦ ў гэтым крытычным часе, калі ворагі Царквы стараюцца яе зьнішчыць.

## 40 ГОД ЯПІСКАПСТВА МІТРАПАЛІТА МСЬЦІСЛАВА

Адзначэньне 40-годзьдзя Япіскапства Мітрапаліта Мсьціслава адбылося ў Саўт Баўнд Брук, Ню Джэрзі, у суботу й нядзелю 15-га й 16-га травеня 1982 году. Мітрапаліт Мсьціслаў быў хіратанізаваны 14-га травеня 1942 г. ў Кіяве. Уладыка Ізяслаў ад БАПЦ быў запрошаны й браў удзел у гэтай двух-дзённай урачыстасьці.

У першы дзень, у суботу, пасьля вячэрні адбыўся багаты сьвяточны канцэрт у украінскім Доме Культуры.

У нядзелю раніцаю многа вернікаў, сьвятароў і гасьцей сабралася перад Царквою, Памятнікам, Сьв. Андрэя Першазванага каб вітаць Юбілянта, Мітрапаліта Мсьціслава, Арх. Марка й пачэсных гасьцей-герархаў: Мітрапаліта Сьцяпана з Украінскае Каталіцкае Царквы й Япіскапа Ізяслава з БАПЦарквы. Мітрапаліт Мсьціслаў адслужыў Сьв. Літургію ў асысце многіх сьвятароў з паміж 50-ці якія зьехаліся на гэтую ўрачыстасьць.

Сьвяткаваньне закончылася банкетам ладжаным у украінскім Доме Культуры з удзелам больш як 820 асобаў, на якім многія выступалі з прамовамі й прывітаньнямі для Мітрапаліта Мсьціслава й было прачытана прывітаньне ад Прэзыдэнта Роналда Рэйгана З.Ш.А. Уладыка Ізяслаў вітаў Мітрапаліта Мсьціслава ад БАПЦарквы й яе Першагерарха Мітрапаліта Андрэя.

# Масква прадаўжае наступ на беларускую эміграцыю

У нядзелю 16-га травеня па амэрыканскай тэлевізіі перадавалася спэцыяльная праграма якая ў аснаўным ачарняла ўсіх Беларусаў сваім аскарджэньнем, што, нібы-то, у З.Ш.А. жыве больш як 300 беларускіх „нацыстаў" і ваенных праступнікаў. Аб гэтым потым шырака пісалася ў амэрыканскіх газэтах.

Разглядаючы „довады" падання ў газэтах, мы бачым, што найбольш аскарджаючыя зь іх паходзяць з Савецкага Саюзу, ад савецкіх лекароў і ад Савецкага Міністэрства Замежных Справаў.

Тут трэба толькі прыпомніць як Масква тлумачыць свае забойства польскіх афіцэраў (больш як 15 тысяч) у Катыні. Масква кажа, што іх нібы-то „Немцы забілі". Маскоўскае фальшаваньне дакумантаў добра ведамае па ўсім сьвеце й Масква напэўна не пашкадуе гэтага свайго таленту каб ачарніць беларускую палітычную эміграцыю, падаючы „дакуманты" ці інфармацыі падобнага характару аб беларускіх „калабарантах" наіўным амэрыканскім карэспандэнтам.

Таксама цікава зазначыць, што апошняя спроба пашкодзіць беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце паўстала так хутка пасьля паўстаньня закалотаў у БАПЦ, каторыя, у апініі многіх, таксама былі інсьпіраваныя Масквою.

## Служкі А.Б.А.Д.З.Ц. зьневажаюць Мітрапаліта

*КЛІЎЛЕНД, З.Ш.А.* Група беларускіх служкаў *анты-беларускай акцыі для зьнішчэньня БАПЦарквы (А.Б.А.Д.З.Ц.)*, карыстаючыся фізычнай сілай або барыкадамі, непусьціла Мітрапаліта Андрэя ў Царкву ў Кліўлендзе адслужыць Вялікодныя Багаслужбы.

# ...І СЫМБАЛЬ БЕЛАРУСІ – ВАСІЛЁК

## Да 90-годзьдзя з Дня Нараджэньня Максіма Багдановіча

**З Гістарычных Матэрыялаў Апрацаваў ВАЦЛАЎ ПАНУЦЭВІЧ**

Сапраўдны талент – заўсёды загадка. І чым больш ён вялічны ў сваёй велічы, тым больш глыбінны ў выяўленьні сваім, тым больш загадкавы. Пра Багдановіча пісалі ды пішуць розныя літаратурныя дасьледнікі славянскіх народаў, ды знаходзяць у ягоным таленце надзвычайныя талентныя рысы міма маладога веку ды ўмовах жыцьця ўсьцяж у вандроўцы з бацькамі ў розных раёнах царскай Расеі. Чамусьці русыфікацыя яго не палоніла. Ён у сваіх маладняцкіх школьных гадох быў добрым сябрам свайго асяродзьдзя. Валасы меў густыя, цёмна-рыжыя, у барадзе й вуснах каштанаватыя. Вочы шэрыя... У школе быў добрым сябрам... Сьмяшлівы, радасны, гэтую рысу асабліва адзначаю... Потым у маладосьці, калі ў ім вызначылася грудзінная хвароба – сухоты, прастадушны сьмех замяніўся лёгкай усьмешкай, якая нязьменна была на ягоных вуснах, і зыходзіла толькі тады, калі ён раздражняўся.

Быўшы аднаклясьнік Максіма Багдановіча акадэмік Ціхан Годнеў, апісваючы паэта, адзначыў, што выгляд у яго быў паважны й засяроджаны. Калі пачынаў гаварыць, твар зацьвітаў усьмешкай. Карэктны й ветлівы, ён умеў іранізаваць, у сваёй кампаніі жартаваў.

Беларускі драматург В. Гарбацэвіч пісаў, што Максім Багдановіч быў прыгожы, стройны, віртуозны дэкляматар, сваімі вершамі пакараў усіх.

Нягледзячы на летуценнасьць, на мяккае, добрае сэрца, Максім быў вельмі стойкім у працы, і да пастаўленай мэты ішоў рашуча й упарта. На гэтую рысу характару сына таксама зьвяртаў увагу Адам Ягоравіч.

Сябра Максіма Багдановіча з гімназіі Дзяблоцкі адзначыў, што паэт быў вельмі сарамлівы. І толькі сярод блізка знаёмых людзей сарамлівасьць ягонай зьнікала. Дзеля гэткай рысы свайго характару ён ніколі ня бываў на вечарах у гімназіі.

Адам Багдановіч, характарызуючы жыцьцё сына Максіма ў гімназійныя гады, адзначаў, што, відаць, ні з кім з сяброў у яго ня было асабліва блізкіх адносін, акрамя Дзяблоцкага. Ён-жа або займаўся ў 'сваім пакоі, або сядзеў у пушкінскай бібліятэцы, чытаючы новыя часапісы. Жыцьцё было спакойнае ды аднастайнае. Гэтага дарэчы патрабавала ўжо яскрава выяўленая ягоная хвароба. Пра ліцэйскія гады сына А. Багдановіч пісаў, што і круг знаёмых у яго быў абмяжаваны... Жыцьцё вёў сіроцкае, засяроджанае на навуцы ды літаратурнай дзейнасьці... Ён яскрава разумеў слабасьць свайго здароўя, якога было недастаткова нават для той напружанай навуковай і асабліва літаратурнай працы, якую ён вёў.

Сапраўды, уся літаратурная дзейнасьць М. Багдановіча пацьвярджае яго тытанічную працу. Але ён быў малады ды любячы красу ў чалавеку ды ў прыродзе. І меў сяброў. І кахаў...

Многасямейны бацька яго, заняты сваімі справамі, відаць, ня зусім добра ведаў, як жывуць ягоныя старэйшыя дзеці. Да дому Максіма амаль ніхто ня заходзіў. Тут, відаць, былі абставіны ў сям'і Багдановічаў. Мачыха Максіма ня была венчана з бацькам, таму ў дом яны нікога не запрашалі... Сам Максім бываў у сям'і Дзябольскіх амаль кожны дзень і ня толькі ў іх. Юнак сябраваў з калегамі па гімназіі братамі Мікалаем і Рафалам Какуевымі, а таксама зь іх сёстрамі Аняй і Варай. Аню ён кахаў. Ён прысьвяціў паэтычны цыкль „Мадонны" ды шмат іншых вершаў. У двары Кукуевых зьбіраліся гімназісты-аднаклясьнікі, гулялі ў гарадкі, лапту... Увечары, седзячы на ганку, сьпявалі. Ва ўсіх гэтых гульнях удзельнічаў і Максім, які пазьней апісаў іх у паэме „Веранікa":

*Вясёла йшлі гулянкі нашы:*
*Пад шум і гук размах рукі*
*Зьбіваў здалёку гарадкі,*
*Быў чутны сьмех пры відзе „кашы",*
*І кожны стрымліваў свой плач,*
*Калі ўразаўся ў плечы мяч...*

і далей:

*Калі-ж сачыўся бледнаваты*
*Зор сініх сьвет праз небасхіл*
*І ўплятаўся ў вулак пыл,–*
*Мы ўсе пялялі каля хаты,*
*І напаўняў пявучны хор*
*Маркотнай песьняй сьціхшы двор.*

Аўтабіяграфічнасьць паэмы „Веранікa" пацьвярджаюць успаміны Д. Дзябольскага й лісты М. Лілеева, а таксама групавыя фотаздымкі, дзе Максім зьняты побач з братамі й сёстрамі Какуевымі.

Апісваючы гульні гімназістаў у двары Какуевых, М. Лілееў адзначае: „Ва ўсіх гульнях прымаў удзел і сябра сям'і – Багдановіч". Д. Дзябольскі пісаў: „У апошнія гімназіяльныя гады Максім Багдановіч зь сям'ёй пазнаёміўся з сям'ёй свайго аднакласьніка Рафала Какуева й стаў часта там бываць пасябраваўшы з братамі Рафаілам і Мікалаем, як зь дзьвума іх сёстрамі – Ганнай і Барбарай... Абедзьвія добра ведалі мовы ды былі дасужымі, асабліва Ганна, стройная, з тонкім тварам ды цёмнымі вачыма. Вясною Максім амаль кожны вечар бываў у іх; на вялікім двары кукаеўскага дому, дзе вечарамі гулялі ў гарадкі. Максім быў захоплены гульнёй ды з захапленьнем пра яе расказваў. У радках пра „гарадкі" ў вершаваным апавяданьні „Веранікa" шмат лучнасьці з Какуевамі...

Знаёмства з сям'ёй Кукаевых ды частыя наведваньні ў тую-ж вясну вялікага какуеўскага дому былі, мабыць, лепшым часам яго ня вельмі радаснай маладосьці, таму што хвароба ўсьцяж напамінала пра сябе.

Першае Максімава гора – сьмерць маці – пакінула глыбокі сьлед у душы юнака. Сьветлы вобраз маці жыў у сэрцы Максіма да апошніх дзён яго жыцьця. Старанна захоўваў ён ноты, па якіх яго маці грала на піяніне, любіў песьні, што сьпявала яна. Вобраз маці заўсёды ў яго лучыўся зь Беларусяй, зь мясьцінамі, дзе прайшло раньняе юнацтва. Ён прагна чытаў беларускія казкі ды песьні з фальклёрных зборнікаў Шэйна й Раманава, што перахаваліся ў хатняй бібліятэцы.

Бацьку свайго паважаў і быў удзячны яму за выхаваньне. Былы загадчык літаратурнага аддзелу рэдакцыі яраслаўскай газэты "Голас" Мікалай Агурцоў у сваіх успамінах прыводзіць наступныя словы Максіма Багдановіча: „Мяне выхоўваў бацька. Неяк я паказваў Вам яго бібліятэку. У ёй ёсьць усё істотнае, што зьяўлялася перадавым у літаратуры сьвету. Бацька пачынаў, з чаго пачынае кожны народ у сваёй творчасьці, з эпаса. Мы ўжо ў дзяцінстве ведалі „Рустама й Зараба", „Ільяду", „Калявалу", быліны ды шмат што іншае. Пасьля прыступілі да лірыкі й драмы. Ведама, галоўная ўвага была зьвернена на славянскія літаратуры..."

Бібліятэку Адама Багдановіча ўспамінае й прыяцель Максіма А. Залатароў, які гаворыць,што ў бацькі паэты, Адама Ягоравіча, была тады вялікая бібліятэка якая вырозьнівалася„выключна цэнным" падборам кніг. Бібліятэкай бацькі Максіма вельмі ганарыліся.

Максім многа чытаў, займаўся самаадукацыяй, глыбока вывучваў гуманістычныя навукі й беларускую мову. „Слоўнік беларускай гаворкі" І. Насовіча заўсёды ляжаў у яго на стале.

Цяжка сказаць, калі Максім пачаў пісаць свае творы. Выглядае – вельмі рана, бо яшчэ да паступленьня ў гімназію, у 1910 годзе, калі яму было 10 год, ён паказаў ужо хроснай ВользеСёмавай, свае вершы на беларускай мове. Ня бацьку ды не Максіму Горкаму паказаў свае першыя спробы пяра, а хроснай, што прыехала ў госьці зь Беларусі. Не паказаў сваіх вершаў Горкаму й пазьней. Гэта бачна з лісту стрыечнага брата Максіма Паўлы Багдановіча з 26 сакавіка 1905 г. ды самога Горкага з 4 жн. 1905г.

Павал Багдановіч пісаў, што ў 1906 годзе шляхі бацькі й Максіма Горкага разышліся. Перапіска паміж імі аднавілася ў канцы 20-х гадоў. Літаратурная дзейнасьць Максіма Багдановіча працякала ў час, калі яго бацька не перапісваўся з Аляксеем Максімавічам. „Бацька ніколі не зьвяртаў увагі Горкага на творчасьць майго брата, гэта мне добра ведама".

Праз 7 год пасьля сьмерці Максіма Б. у першым пісьме, якое паслаў Адам Ягоравіч, бацька Максіма, да Горкага з запытаньнем, ці не пасылаў сын Максім сваю кнігу Горкаму, Максім Горкі адказаў коратка: „Максім не пісаў мне і кнігі сваёй не перасылаў"...

Пачатак літаратурнай дзейнасьці Максіма Багдановіча прыпадае на час, калі беларускае слова ў пэрыяд рэвалюцыі 1905–1907 гадоў толькі прабівала сабе шлях на старонкі друку. У 1905 годзе менская расейская прагрэсыўная газэта „Северно-Западный край", 15-га травеня друкуе першы верш Янкі Купалы „Мужык" на беларускай мове.

У той час Багдановічы жылі далёка ад Беларусі, у сям'і гаварылі парасейску. Праўда, Адам Ягоравіч бачыць на ўплыў на Максіма ня толькі Маткі, але сем'яў дзьвюх яго сясьцёр – Гапановічаў і Галаванаў, таксама чыста беларускіх, якія так зрасьліся, што, па сутнасьці, прадстаўлялі адну сям'ю ў трох кватэрах і былі своеасаблівай калёніяй у Ніжнім Ноўгарадзе.

„На чужыне сваё роднае" так жыва ўспамінаецца ды цэніцца, – пісаў А. Багдановіч... Сястра Магдалена, носьбіт традыцыяў Беларусі, жыла ды вяла сваю сям'ю так, як гэта рабілі яе маці ды бабуля: яна захоўвала й шанавала ўсе нашыя звычаі й абрады, спраўляла „дзяды, каляды, масьленіцу, вялікадні ды інш., як гэта рабілі нашыя продкі... Максім увесь вольны час праводзіў у цётак у гульнях і забавах са сваімі дзьвюроднымі братамі й сёстрамі. Тутэжа ён чуў і беларускую казку, і беларускую песьню... І хоць у сям'і панавала расейская мова, але пачуцьці, густы, схільнасьці, звычаі, перажываньні былі ў аснове беларускія".

Максім любіў сваю радзіму Беларусь зь ейнай пачуцьцёвай напеўнай мовай, багатай гістарычнай спадчынай, зь вялікай гуманнасьцю ўсяго народу...

Ён як вялікі сын свайго народу, пачаў пісаць на ягонай беларускай мове... „Яго заняткі беларускай прaходзілі зусім непрыкметна для мяне ды акружаючых; так ці накш, я яго не папіхаў на гэтую дарогу, але, зразумела, не перашкаджаў яму", пісаў бацька.

Першым друкаваным творам Максіма Багдановіча было лірычнае апавяданьне „Музыка", апублікаванае ў 1907 г. ў газэце „Наша ніва" (6 ліпеня). З таго часу пачынаецца бурная творчасьць паэты. Ужо ў гэтым творы шаснаццацігадовы юнак выказаў сваё крэда: прызначэньне мастацтва ён бачыў у службе для народу...

Паэт бліскучага таленту, Максім Багдановіч пакінуў нам клясычныя ўзоры грамадзкай, філязофскай, інтымнай і пэйзажнай лірыкі, эпічных і лірычных твораў, напісаных паводле народных матываў. Такім чынам ён узбагаціў беларускую літаратуру мастацкімі перакладамі вершаў Пушкіна, Гарацыя, Авідзія, Шылера, Гэйнэ й інш. Такім чынам М. Багдановіч разьвіваў у беларускай літаратуры прынцыпы рэалізму й народнасьці.

Вялікую ўвагу зьвяртаў ён на распрацоўку розных паэтычных жанраў. Сваю ролю ў разьвіцьці беларускай літаратуры паэт выказвае вельмі сьціпла: „...Мая творчасьць была накіравана галоўным чынам на расшырэньне кола тэм і формаў беларускай паэзіі"...

Дамінуючай тэмай паэтычнай творчасьці М. Багдановіча зьяўляюцца думы пра лёс Беларускага народу. У вершах „Краю мой родны!" (1909), „Зь песьняў беларускага мужыка", „Пан і мужык" (1912) і інш. паэт малюе цяжкае жыцьцё простага народу ва ўмовах царскай Расеі.

*Краю мой родны! Як выкляты богам–*
*Стольki ты зносіш нядолі.*
*Хмары, балоты... Над збожжам убогім*
*Вецер гуляе на волі.*

*Поруч раскідалісь родныя вёскі,*
*Жалем сьціскаюцца грудзі! –*
*Бедныя хаткі, тапалі, бярозкі,*
*Усюды панурыя людзі...*

*Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,*
*Вынесьлі моцныя сьпіны;*
*Шмат іх прымусілі выцерпець мукі*
*Пушчы, разлогі, нізіны.*

*Кінь толькі вокам да гэтага люду –*
*Сьціснецца сэрца ад болю:*
*Стольki пабачыш ты гора ўсюды,*
*Стольki нуды без патолі...*

*У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе*
*Сэрца навін не пачуе.*
*Сьціснула гора дыханьне ў прыродзе,*
*Гора ўсюды пануе ...*

*Хваляй шырокай разьлілася, як мора,*
*Родны наш край затапіла...*
*Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора!?*
*Брацьця! Ці хопіць нам сілы!*

І Максім Багдановіч, як праўдзівы наглядчык сваёй эпохі, вялікую ўвагу зьвяртаў на паняволеньне народу з усіх бакоў. Селянін у паказе М. Багдановіча цяжка пакутуе ад малазямельля, бяспраўя, цемнаты, але ўсьведамляе, хто віноўнікам яго пакуты. Мужык у Багдановіча бачыць бязвыхаднасьць між панамі й сабой, і яго не палохае, бо ён упэўнены ў сваёй праўдзе й сіле.

*Я хлеба ў багатых прасіў і маліў,–*
*Яны-ж мне каменьні давалі;*
*І тыя каменьні між імі й мной*
*Сьцяною вялізнаю ўсталі.*
*Яна ўсё вышэй і вышэй расьце*
*І шмат каго вельмі лякае,*
*Што-ж будзе, як дрогне, як рухне яна!*
*Каго пад сабой пахавае?*

З выключнай сілай паказаў паэт падзел на багатых і бедных у вершы „Мяжы":

*Глядзі: па ўсёй зямлі сьвятой*
*Шырокай хваляй залатой*
*Без краю бліішча збожжа мора,*
*Цьвітуць лугі, шумяць лясы...*

*Так многа ёсьць паўсюль багацьця й красы,*
*А людзі нішчацца ў голадзе, у зморы*
*Ад беднаты, ад цемнаты,*
*Бо скрозь – мяжы, бо скрозь – платы...*

Максім Багдановіч верыў, што ў 1905 годзе „зварушаны нарэшце народны ўздым дарма ня згасьне". Вера ў непазбежнасьць рэвалюцыі, вера ў народ надавалі яму сілы. Паэт заклікаў ісьці ў рэвалюцыю, бо свабоду дасьць толькі яна.

*Рушымся, брацьця, хутчэй*
*У бой з жыцьцём, пакідаючы жах,*
*Крыкі пужлівых людзей*
*Ня стрымаюць хай бітвы размах...*

Такія-ж матывы ў вершах „Нашых дзедаў душылі абшары лясоў..." „Не бядуй".

*Не бядуй, што хмары*
*Сонца сьвет схавалі.*
*Нарадзіцца мусіць*
*Бура з гэтых хмар...*

Творчасьць Максіма Багдановіча глыбока аптымістычная, ён ня сумняваўся што прыйдзе час для працоўнага беларускага народу:

*Ня згасла сонца! Сонца гляне,*
*Усіх падыме ада сна.*
*Ён, гэты дзень, яшчэ настане, –*
*І ачуняе старана!*

(„Кінь вечны плач аб Беларусі")

Паэт глыбока вывучваў гісторыю роднага Краю. Ведаць гісторыю – адзін з намаганьняў Максіма Багдановіча. Так у сваіх творах на гістарычныя тэмы паэт напамінаў беларускаму народу „аб прадзедах сваіх, аб горы, радасьцях ды

аб прыгодах іх". Ен пісаў вершы, аб першадрукару Францішку Скарыне, пра старажытных летапісаў. („Безнадзейнасьць", „Летапісец", „Перапісчык" і „Кніга").

Перад намі паўстае вобраз летапісца, які пакінуў нам сьведчаньне пра мінулае Беларусі:

*Душой стаміўшыся ў жыцьцёвых цяжкіх бурах,*
*Свой век скanчае ён у манастырскіх мурах.*
*Тут ціша, тут спакой, – ні шуму, ні клапот.*
*Ен пільна летапіс чацьвёрты піша год*
*І сьпісвае ўсё ад слова і да слова*
*З даўнейшых граматак пра долю Магілёва...*
(„Летапісец")

У вершы „Слуцкія ткачыхі" (1912) паэт паказвае час прыгону на Беларусі. Дзяўчаты ад цямна да цямна ткуць залатыя паясы водля пэрсідскіх узораў, але рукі іх мімаволі замест дадзенага ім узору – ткуць узор роднага васілька...

*Ад родных ніў, ад роднай хаты*
*У панскі двор дзеля красы*
*Яны, бяздольныя, ўзяты*
*Ткаць залатыя паясы.*

*І цягам доўгія часіны,*
*Дзявочыя забыўшы сны,*
*Сваe шырокія тканіны*
*На лад пэрсідзкі ткуць яны.*

*А за сьцяной сьмяецца поле,*
*Зіяе неба з-за акна, –*
*І думкі мкнуцца мімаволі*
*Туды, дзе расьвіла вясна;*

*Дзе блішча збожжа ў яснай далі,*
*Сінеюць міла васількі,*
*Халодным срэбрам зьзяюць хвалі*
*Між гор ліючайся ракі;*

*Цямнее край зубчаты бору...*
*І тчэ, забыўшыся, рука,*
*Заміж пэрсідзкага ўзору.*
*Цьвяток радзімы васілька...*

Гэты верш – адзін з клясычных вершаў Максіма Багдановіча. У ім выказаная шчырая любоў паэты да простага народу, боль за яго крыўды, пакуты ды бяспраўе, і глыбокая павага да народнага таленту.

М. Багдановіч першы ў беларускай літаратуры пісаў пра Вільню. Вільня ўразіла яго кантрастамі: ён бачыць цесныя ды ціхія вулачкі са старажытнымі вежамі, з гатыцкай архітэктурай і побач – новую мітусьню зь вулічным натоўпам, стракатымі вітрынамі, з крамамі, лямбардамі ды з людзкім горам:

*І места, дзе няма прастора*
*Дзеля прыроды буйных сіл,*
*Прабіла сьцежку мору гора...*
(„На глухіх вулках - ноч глухая")

М. Багдановіч захапляецца рытмам Вільні:

*Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!*
*Вір людзкі скрозь заліў паясы тратуараў,*
*Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,*
*І гараць аганьком вочы змучаных твараў!*
*А завернеш у завулак – ён цесны, крывы,*
*Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў,*
*Між каменьнямі – мох і сьцяблінкі травы,*
*А на вежы, як круглае вока савы,*
*Цыфарблат – пільны сьведка мінулых учынкаў...*

Максім Багдановіч вельмі тонка адчуваў прыгажосьць і ў чалавеку, і ў мастацтве, і ў прыродзе. Выдатная готыка віленскага касьцёла сьвятой Ганны пакідае ў яго душы пачуцьці гармоніі, згоды паміж чалавекам і прыродай.

Гораду, яго сучаснаму і мінуламу абліччу прысьвячае вершы: „Вулкі Вільні зьяюць і гулка грымяць...", „У Вільні" (санэт), „За дахамі места памеркла нябёс пазалота...", „На глухіх вулках – ноч глухая..." і „Зьвіруха". Усе гэтыя вершы аб'яднаны ў цыкль „Места".

Тонка адчуваў, моцна любіў паэт прыроду ды захапляўся яе красой. Асноўны матыў пэйзажнай лірыкі Максіма Багдановіча – раскрыцьцё ўнутранага сьвету чалавека на ўлоньні прыроды.

*Цёплы вечар, ціхі вечар, сьвежы стог,*
*Улажылі спаць мяне вы на зямлі.*
*Ня курыцца сьветлы пыл усьцяж дарог,*
*Ў небе месяца прагляну́ў бледны рог,*
*У небе ціха зоркі расьцьвілі.*

*Зьнічка коціцца агністаю сьлязой,*
*Прашумела мякка скрыдламі сава;*
*Бачу я, з прыродай зьліўшыся душой,*
*Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,*
*Чую ў цішы, як расьце трава.*

Пэйзажныя вершы заўсёды вельмі ярка выказваюць настрой паэты. У зімні марозны вечар ён адчувае сябе бадзёрым:

*Здароў, марозны, звонкі вечар!*
*Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!*
*Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер,*
*І волен лёгкіх санак бег...*

„Ціха па мяккай траве сінявокая ноч прахадзіла..." Хто, акрамя Максіма Багдановіча, мог-бы так проста ды паэтычна сказаць пра кароткую летнюю ноч?

Паэт тонка ўлоўлівае гукі прыроды, яны зьліваюцца для яго ў цудоўную сымфонію.

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б'ецца, ўецца, шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

*Навокал усё паветра*
*Ў струнах сонца залатых, –*
*Ен дрыжачымі крыльлямі*
*Звоніць ледзь чуваць у іх.*

*І ліецца хваляй песьня, –*
*Ціхі, ясны гімн вясьне.*
*Ці ня сэрца напявае,*
*Напявае яго мне'...*

Вялікае месца займае ў творчасьці паэты й інтымная лірыка. Раманс М. Багдановіча „Зорка Вэнэра" стаўся шырока ведамай любай народнай песьняй.

*Зорка Вэнэра ўзышла над зямлёю,*
*Сьветлыя згадкі з сабой прывяла...*
*Помніш, калі я спаткаўся з табою,*
*Зорка Вэнэра ўзышла...*

Некаторыя зь лірычных вершаў М. Багдановіча носяць аўтабіяграфічны характар. Цыкль паэм „Мадонны" ды нямала вершаў прысьвяціў ён Ані-Ганьне Какуевай. Нягледзячы на трагэдыю асабістага лёсу (Максім добра ведаў, што дні яго жыцьця палічаны), нават яго інтымная лірыка сьветлая, бязроспачы. У адным зь вершаў, прысьвечаным Ані, ён пісаў:

*Учора шчасьце толькі глянула нясьмела,*
*І разьвеяліся хмары змрочных дум.*
*Сэрца чулае і млела, і балела,*
*Радасьць душу мне шчаміла, быццам сум.*

*Усё жыцьцё цяпер, як лёгкая завея,*
*Кнігу разгарнуў – а не магу чытаць,*
*Як зрабілася, што пакахаў цябе я, –*
*Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?*

І толькі зрэдку праяўляецца боль паэта:

*Больш за ўсё на сьвеце жадаю я,*
*Каб у мяне быў свой дзіцянёк –*
*Маленькая дачушка – немаўлятка*
*Аня Максімаўна,*
*Такая прыгожанькая,*
*Цёпленькая, мокранькая,*
*Зь цёмна-карымі вочкамі,*
*А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.*
*Зусім такая, як Вы,*
*Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай...*

Як бачым Максім Багдановіч – паэт вялікага таленту з шырокімі размахамі. Адзін зь яго ўлюбленых вобразаў – вобраз Мадонны. Ен зьвяртаўся да яго ў вершы „У вёсцы", у паэме „Вэраніка", у цыклі „Мадонна" а таксама ў некаторых іншых вершах у крузе „Мадонна". Яна – зьліцьцё дзявочай чысьціні й прыгожасьці мацярынства...

Рысы Мадонны паэт убачыў у простай вясковай дзяўчыны:

*Дзяўчынка к хлопцу нагнулася і, сьлёзкі*
*Сьціраючы яму, штось пачала казаць,*
*Каб заспакоіць плач – зусім як быццам маць,*
*Ды зьліваліся ў жывы абраз адзіны*
*Той выгляд мацяры ды з воблікам дзяўчыны,*
*Дзіцячым, цяненькім; і ў гэты час яна,*
*Здавалася, была аж да краёў пайна*
*Якойсь шырокаю, радзімаю красою,*
*І, помню, я на міг папрыгажэў душою.*
(„Вёска")

Вершы паэта гучаць гымнам мацярынству, красе й дабраце жанчыны. Максім Багдановіч надаваў вялікае значэньне ролі мастацтва й літаратуры ў жыцьці чалавека. Таму, на яго думку, паэт павінен быць вельмі патрабавальным да сваёй творчасьці.

*Ведай, брат Малады, што ў грудзях у людзей*
*Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня.*
*Разаб'ецца аб іх слабы верш зайсягды,*
*Не збудзіўшы сьвятога сумленьня.*

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.*
*Як удэрыш ты ім, – ён, як звон, зазьвініць,*
*Брызнуць іскры з халодных каменьняў.*
(„Песьняру")

У Вільні ў 1913 г. выйшаў адзіны зборнік Максіма Багдановіча „Вянок". Паэт аб'яднаў свае вершы ў некалькі тэматычных цыкляў – „У зачарованым царстве", „Гоман бацькаўшчыны", „Старая Беларусь", „Места", „Думы", „Вольныя думы", „Старая спадчына", „Мадонны", „Каханьне й сьмерць".

„Вянок" выдаваўся зь вялікімі цяжкасьцямі. Пра гэта сьведчыць перапіска Багдановіча з супрацоўнікамі рэдакцыі газэты „Наша Ніва". У лісьце 1913 году цяжка хворы ў той час паэт пісаў, што выданьню кніжкі, галоўным чынам, перашкаджае недахоп грошаў: „сам ён не зарабляе, у бацькі прасіць, дык ён многа даць ня можа... Але вось што: калі я ачуняю, дык паспрабую ўзяць на кніжку ў розных сваіх знаёмых грошы. Значыцца, прадасца колькі сот экзэмпляраў яе, Вы мне перашліце тыя грошы. Другое, Вы мне ня шліце аўтарскіх экзэмпляраў, я іх куплю й куплю шмат"...

У кнігу „Вянок" увайшла невялікая частка таго, што напісаў Багдановіч, але яна выключна цэнная ды добра перадае сьветапогляд аўтара...

Пісаў Максім Багдановіч і апавяданьні. Як і вершы, яны кароткія, яны абрэзаныя расейскай цэнзурай. Асабліва цікавыя апавяданьні, у якіх пісьменьнік выказвае свае эстэтычныя погляды. Гэта: „Музыка" (1907), „Шаман" (1914), „Мадонна" (1913), „Сон-трава" (1913).

Апавяданьне „Марыва" (1914) аўтабіяграфічнае, яно цесна з паэмай „Вэраніка" ды вершамі, пасьвечаныя Ані-Ганьне Какуевай, сымпатыі Максіма Багдановіча. У ім падзеі перанесены з Яраслаўля ў Вільню, і пісьменьнік упершыню называе поўнае імя Ані. Напісанае ў мінуты духовага болю, апавяданьне вельмі абыякавае. Таму, мабыць, Багдановіч і не друкаваў яго. Яно было апублікавана пасьмяротна з аўтографа.

Уся літаратурная дзейнасьць Максіма Багдановіча была выключна мэтанакіраванай. Мэту, якую паставіў перад сабой гэты ўлюблены ў свой народ і родную прыроду юнак, проста дзёрская. Жывучы ўвонках Беларусі, бяз усякай падтрымкі навокальных яго людзей, Максім Багдановіч пастанавіў стацца беларускім паэтам ды сваёй творчасьцю ўспамагаць плённаму разьвіцьцю беларускай культуры...

У час, калі беларуская мова была ў заняпадзе, Багдановіч імкнуўся давесьці, што на гэтай мове можна выказаць самыя тонкія адцені думак і перажываньняў чалавека. Каб пераканаць у гэтым, ён перакладаў на беларускую мову выдатных паэтаў сьвету – Гарацыя, Авідзія, Пушкіна, Шылера, Гейна, Верлена ды іншых. Максім Багдановіч марыў аб тым часе, калі беларуская літаратура як роўная з сусьветнай устане поруч з выдатнымі літаратурамі сьвету ды ўнясе нацыянальны ўклад у сусьветную літаратуру. Таму ўсе свае сілы ён накіраваў, каб пашырыць гарызонты й павысіць якасьць беларускай паэзіі. З гэтай мэтай ён выбіраў цяжкія, вытанчаныя формы – санэты, трыялеты, рандо ды іншыя.

Былы загадчык літаратурнага аддзелу яраслаўскай газэты „Голос" М. Агурцоў перадае наступныя словы М. Багдановіча: „За беларускай мовай ня хочуць самастойнасьці ды самабытнасьці. Ня хочуць дапусьціць і думкі, што на гэтай мове можна выказваць усе рухі чалавечай душы й даць высока-літаратурнай мовай жыцьцёвыя разьвязкі... У гэтым глыбокая нацыянальная роля паэзіі Максіма Багдановіча..."

# Вытрымкі з Кананічных Правілаў

У сваіх асьветчаньнях Архіяпіскап Мікалай паказаў, што наступныя Апостальскія правілы й пастановы Сямі Ўсяленскіх Сабораў яго не заабавязваюць:

*АПОСТАЛЬСКІЯ ПРАВІЛЫ 12, 13 і 16*

Забараняюць клірыкам пераходзіць у другую Епархію не атрымаўшы адпускное граматы ад епархіяльнага Япіскапа. І калі Япіскап з другое Епархіі прыйме самавольна клірыка ў сваю Епархію, то прымаючы Япіскап мусіць быць адлучаны ад царквы як і прыняты ім, паколькі ён становіцца настаўнікам беспраўя.

Апостальскія правілы 12,13 і 16 былі пацьверджаныя й Першым Усяленскім Саборам, правілам 5 і 15; Чацьвертым Усяленскім Саборам, правілам 13; і Шостым Усяленскім Саборам, правілам 17.

*АПОСТАЛЬСКІЯ ПРАВІЛЫ 31, 32 і 33*

Калі каторы з сьвятароў не падпарадкуецца свайму епархіяльнаму Япіскапу і самавольна будзе склікаць зборы, будзе адлучаны ад царквы разам з клірыкамі якія яго насьлядуюць. А каторы сьвятар або дыякан будзе пазбаўлены сану ня можа быць прыняты іншым Япіскапам, а толькі тым, хто яго звальняў, а дзеля таго іншы Япіскап не павінен адлучаных браць у абарону, не даваць ім сховішча й не прымаць у сваю Епархію.

Гэтыя апостальскія правілы былі пацьверджаны Другім Усяленскім Саборам, правілам 6; Чацьвертым Усяленскім Саборам, правілам II; і Шостым Усяленскім Саборам, правілам 31.

*АПОСТАЛЬСКАЕ ПРАВІЛА 14*

Забараняе Япіскапу пасягаць на парафіі ў тых мясцовасьцях, якія не належаць да ягонае Епархіі. Правіла гэтае было пацьверджана Першым Усяленскім Саборам, пра. 15; і Чацьвертым Усяленскім Саборам, пра.5.

*АПОСТАЛЬСКАЕ ПРАВІЛА 34*

Заабавязвае кожнага ведаць першага Япіскапа як першаярарха Царквы, нічога не рабіць без паразуменьня і згоды яго, а кожны другі Япіскап можа тварыць толькі тое, што датычыцца да яго Епархіі. Гэтае апостальскае правіла было пацьверджана на Першым Усяленскім Саборы правіламі: 4, 5 і 6; на Другім Усяленскім Саборы правілам другім; на Трэцім Усяленскім Саборы прав. 8; і на Чацьвертым Усяленскім Саборы прав. 28.

*АПОСТАЛЬСКАЕ ПРАВІЛА 35*

Забараняе Япіскапу рукапалагаць у сьвятары й дыяканы паза-межамі свае Епархіі. І калі выявіцца, што Япіскап даканаў рукапалажэньне ў неналежачае да яго Епархіі без паразуменьня з правячым Япіскапам, то такі Япіскап пазбаўляецца сану. Апостальскае правіла 35 было пацьверджана Першым Усяленскім Саборам, прав. 15; Другім Усяленскім Саборам, прав. 2; Трэцім Усяленскім Саборам, прав. 8; Чацьвертым Усяленскім Саборам, прав.5, і Шостым Усяленскім Саборам, прав. 17.

*ШОСТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР ПРАВІЛА 8*

Заабавязвае кожнага Япіскапа быць прысутным на Саборы Япіскапаў, які склікаецца Мітрапалітам. А на Япіскапа які ня зьявіцца на Сабар, накладаецца забарона за непадпарадкаваньне.

Аб гэтым-жа вынесена пастанова й на Лаодыкійскім Саборы, правіла 40, і на Саборы Памесным Канстантынопальскім, правіла 14, дзе гаворыцца, што кожны Япіскап абавязкава павінен браць чынны ўдзел на Саборы Япіскапаў бо сваім

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# На Дзесятыя Ўгодкі Сьмерці Айца Доктара Віктара Войтэнкі

Дня 25-га красавіка 1982 году мінула дзесяць год з дня адыходу ў вечнасьць сьв. пам. доктара Віктара Войтэнкі. Кароткім было зямное жыцьцё а. Віктара. Аднак, за гэты час, ён здолеў многа зрабіць як у рэлігійна-нацыянальнай галіне, так і лекарскай, чаго ня можна выказаць у рамках аднаго артыкулу, а таму коратка ўспомнім толькі аб ягонай рэлігійнай дзейнасьці.

Будучы яшчэ на першым годзе Віленскага ўнівэрсытэту, Віктар ад імя праваслаўных студэнтаў унівэрсытэту, быў вызначаны дэлегатам да Ўладыкі Хвядоса ў Сьвята-Духавым манастыры ў Вільні з просьбаю, каб Уладыка Хвядос выдаў загад да духавенства Віленска-Лідзкай Епархіі каб ува ўсіх царквах Епархіі быў адпраўлены Малебен на Дзень Абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, 25-га Сакавіка.

У гутарцы навет удалося перакanaць Уладыку Хвядоса й ён прырок выслаць абежнік да настаяцеляў парафіяў, каб Малебен быў адпраўлены. Аднак дадае прырачэньне не было выканана, бо даведаўшыся аб гэтым „тоже беларус" Вярнікоўскі, зьявіўшыся да Ўладыкі стукнуў кулаком па стале й прыгразіў каб ніякіх абежнікаў Ул. Хвядос не высылаў, і Ўладыка яго паслухаў.

Яшчэ некалькі разоў прыходзілася студэнту Віктару быць у Ўл. Хвядоса у справах рэлігійных і толькі адзін раз удалося студэнтам атрымаць дазвол і Малебен на 25-га Сакавіка які быў адпраўлены ў царкве Сьв. Мікалая пабудаванай у ваенныя часы ведамым гэтманам Канстанцінам Астрожскім.

Калі-ж у 1941 годзе беларускія землі былі занятыя немцамі й у Варшаве знайдзены былі Іераманахі Філафей і Апанас, то з дазволу Варшаўскага Мітрапаліта Дзіянісія арганізаваць рэлігійнае жыцьцё на Беларусі прыехаў Іераманах Філафей і завітаў да Д-ра Войтэнкі, які ў тым часе быў старшынёю Баранавіцкае акругі. Паехалі разам з Філафеям у Жыровіцы да Мітрапаліта Панцелеймана, дзе ў прысутнасьці Япіскапа Бэнэдыкта Бабкоўскага, Д-ра Войтэнкі й Рыгора Стрэльчыка, адбылася нарада ў справе кананічнага афармленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Адбылася нарада дня 14-га кастрычніка 1941 году, якая была нібы праектам да абвешчаньня Аўтакефаліі БАПЦ, абвешчаньне якое адбылося 30-га жнівеня, 1-га й 2-га верасьня 1942 году на Ўсебеларускім Саборы ў Менску.

Акт Абвешчаньня Незалежнае Беларускае Праваслаўнае Царквы адбыўся. Аднак ажыцяўленьне акту ня было зьдзейсьнена з прычыны наступу савецкае арміі й выезду Япіскапаў у Нямеччыну ды пераходу іх да Расейскае Зарубежнае Царквы.

Даведаўшыся аб плянах пераходу Япіскапаў да Расейскае Царквы, Д-р Войтэнка прыкладаў максімум высілкаў каб устрымаць іх ад гэтага намеру й прасіў іх далей узначальваць БАПЦаркву й абслугоўваць беларускіх праваслаўных вернікаў.

У гэтай справе некалькі разоў зварочваўся пісьмова й пэрсанальна да Архіяпіскапа Філафея й Япіскапа Апанаса й навет прапанаваў іх матар'яльна ўтрымоўваць. Аднак і гэткі спосаб ня быў імі прыняты й яны здрадзіўшы БАПЦаркву канчаткова ўліліся ў склад Расейскае



*Айцец Доктар Віктар Войтэнка*

Зарубежнае Царквы.

З вялікім сумам прынялі беларускія вернікі здраду Япіскапаў і распачалі шукаць дарог да новага аднаўленьня Беларускае Царквы.

У міжчасе зьвяўся да Д-ра Войтэнкі сп. Мікалай Дзямідаў і паведаміў, што ён знайшоў Япіскапа які згаджаецца ачоліць асірацелую Беларускую Аўтакефальную Царкву. Ён толькі хоча гаварыць з аўтарытэтнымі асобамі якія кампэтэнтныя ў царкоўных справах.

Вестка гэтая была з радасьцю ўспрынятая Д-рам Войтэнкам і ў найбліжэйшым часе адбылося не толькі спатканьне з Япіскапам Сяргеям, але й былі абгавораны дэталі ягонага пераходу з Украінскае Аўтакефальнае Царквы да БАПЦ і некаторыя пункты дагаворнасьці пазьней апублікаваныя ў газэце „Бацькаўшчына". Гэта быў першы радасны крок да аднаўленьня новага жыцьця БАПЦ. Пасьля чаго Д-р Войтэнка супольна з актывам беларускага грамадзтва зьвярнуліся да Сыноду УАПЦарквы з просьбаю каб Сынод адпусьціў Уладыку Сяргея для БАПЦарквы. Просьба была памысна задаволена і Ўладыка Сяргей узначаліў БАПЦаркву і распачаў рэлігійна - арганізацыйную дзейнасьць. Для афармленьня кананічных правілаў, захадамі-ж Д-ра Войтэнкі, 5-га чырвеня 1948 году ў Канстанцы быў склісаны Сабор і зацьверджаны акт аднаўленьня БАПЦ.

Калі-ж бальшыня беларускае эміграцыі перасялілася ў Амэрыку й прыехаў Д-р Войтэнка, то незважаючы на сваю лекарскую й фізычную працу ён прыклаў усе свае сілы й здольнасьці для ўзмацненьня й развою беларускага рэлігійнага жыцьця, а праз некаторы час, адчуваючы нястачу беларускага духавенства ён 15 чэрвеня 1969 году прыняў сьвятарскі сан.

Гэта дало яму магчымасьць на працягу свае кароткае сьвятарскае дзейнасьці найбольшую ўвагу зьвярнуць на беларусізацыю БАПЦарквы. Уся ягоная рэлігійная дзейнасьць базавалася ня толькі ў выкананьні Багаслужбаў ды патрыятычных пропаведзяў, але й на глыбокіх рэлігійна-догматычных асновах.

Ідэалягічную сваю думку праводзіў у часопісе „Змагар" які пісаў і выдаваў без ніякае пабочнае дапамогі й у якім закранаў розныя тэмы сьвецкага й рэлігійнага беларускага жыцьця.

Вельмі цяжка перажываў нялады, сваркі й падзел на ўгрупаваньні беларускае эміграцыі, што вельмі балюча адчувалася як у рэлігійным так і грамадзкім беларускім адраджэньні. У гэтай справе не адзін раз ён зварочваўся з заклікам да прадстаўнікоў беларускае эміграцыі, каб прыйшлі да пагадненьня, чаго аднак не суджана было яму зьдзейсьніць. Не памагалі гэтаму ні добрыя ягоныя парады як у лекарскай так і рэлігійна-нацыянальнай галіне. Голасам гукючага ў пустэльні сталіся й ягоныя шматлікія праекты для духовага адраджэньня Беларускага Народу, што вельмі неабходна для беларускага нацыянальнага самазахаваньня.

Няхай-жа ягоная няўтомная праца й дзейнасьць будуць прыкладам для нас, а асабліва для будучае беларускае генерацыі. Прасем Госпада Бога каб сярод нас знайшлося больш такіх змагароў-адраджэнцаў, якія-б прадаўжалі ягоную працу, ды каб зьніклі ў нашым рэлігійным і нацыянальным адраджэньні сучасныя нялады.

Вечная Табе памяць Дарагі а. Віктар – Адраджэнец БАПЦарквы!

*Напісана й надрукавана на просьбу Сям'і Айца Віктара Войтэнкі*

# РЭАКЦЫЯ

## НА ВЫСТУПЛЕНЬНЕ ДР. ГАРОШКІ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ДЭПАРТАМЭНЦЕ З.Ш.А.

10-га сакавіка, 1982 г., Др. Р. Гарошка, выдавец газэты *ЧАС*, быў запрошаны ў Дзяржаўны Дэпартамэнт З.Ш.А. (знаны за сваю мяккую палітыку ў адношаньні да Масквы) на канфэрэнцыю ладжаную для амэрыканскай этнічнай прэсы й для этнічных арганізацыяў. Аб гэтым пісалася ў папярэднім нумары *ЧАС*у паангельску.

Цяпер варта толькі зазначыць рэакцыю на пытаньне публічна ўзьнятае Др. Гарошкам у Дзяржаўным Дэпартамэнце аб амэрыканскім актыўным удзеле ў разьдзяленьні Савецкага Саюзу (на незалежныя рэспублікі) як спосабам недапушчэньня да трэцяе сусьветнае вайны.

Адказ на гэтае пытаньне быў добра ведамы ўперад: З.Ш.А. ёсьць настолькі застрашаныя Савецкім Саюзам, што, пакуль-што, яны нічога рабіць ня будуць у гэтым кірунку. Аднак гэтае пытаньне трэба публічна парушаць і трэба дамагацца ад З.Ш.А. ўмяшаньня ў разьдзел Савецкага Саюзу. Аб гэтым выразна сьветчаць камунікаты атрыманыя Др. Гарошкам з пахвалаю за ягонае выступленьне ў Дзяржавым Дэпартамэнце З.Ш.А. ад многіх іншых нацыянальнасьцяў. Перадусім ад прадстаўніка Украінскага Экзыльнага Ураду (УНР), ад Баўгарскага Нацыянальнага Фронту, ад Камітэту Паняволеных Народаў, ад Немцаў, ад Чэхаў, ад Казакаў і йншых. З другога боку, была толькі адна крытыка ад групкі беларускіх супрацоўнікаў Дзяржаўнага Дэпартамэнту – „квісьлінгаў", у іхняй прэсе.

# 25-га Сакавіка ў Адэлайдзе

64-я Ўгодкі Абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., былі ўрачыста адзначаны ў Адэлайдзе (Аўстраліі) ў нядзелю 28-га сакавіка, 1982 г. Больш як 80 асобаў, многія ў беларускіх нацыянальных касьцюмах, прыехалі на сьвяткаваньне якое пачалося Багаслужбай у беларускай царкве ў Адаляйдзе прыгожа прыбранай жывымі кветкамі. Багаслужбу служыў а. Аўген Сітнік, Настаяцель Парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Падчас Малебна за Бацькаўшчыну Беларусь спадары М. Кандрусік і У. Фраловы трымалі беларускі й аўстралійскі сьцягі ў царкве – панаваў сьвяточны настрой і прыгожа пеў хор пад кіраўніцтвам сп. Міхася Бурноса.

Пасьля Багаслужбы Сястрыцтва парафіі прыгатавала смачны абед для ўдзельнікаў сьвята ў пры-царкоўнай залі. Айцец Аўген Багаславіў ежу і ўсе супольна адсьпявалі малітву „Ойча наш", Беларускі Нацыянальны Гімн і беларускі марш „Падняты родны сьцяг ..."

Пасьля абеду сп. К. Станкевіч, Старшыня Парафіяльнае Рады, папрасіў сп. Янку Ролсана, Старшыню Беларускага Аб'еднаньня, прачытаць атрыманыя прывітаньні й рэфэрат на тэму сьвята, каторы, пазьней, сп. К. Станкевіч пераказаў ў скарочаньні паангельску.

На заканчэньне адбыўся канцэрт пад кіраўніцтвам сп. Міхася Бурноса. Хор сьпяваў 6 беларускіх песьняў і сп. В. Зеленеўскі дэклямаваў два жартаўлівыя вершы. Моцныя воплескі й нават сьлёзы ў вачох прысутных выклікалі дзьве песьні Юльяна й Клары Кандрусік сьпяваныя пад акампанімэнт на акардыёне іхняга бацькі сп. М. Кандрусіка. Пасьля канцэрту, прысутныя прадаўжалі гутаркі й весела сьпявалі беларускія песьні аж да 6-я гадзіны вечара.

Парафіяльная Рада й Управа Беларускага Аб'еднаньня выказваюць шчырую падзяку ўсім тым хто сваёю працаю прычыніўся да так урачыстага адзначэньня Угодкаў Абвешчаньня Б.Н.Р. Было сабрана 300 даляраў на фонд Беларускай Бібліятэкі й Музэю ў Лёндане.

– *Акавіты*

## ВЫТРЫМКІ З КАНАНІЧНЫХ ПРАВІЛАЎ

*(працяг з 7-й бачынкі)*

незьяўленьнем ён пагарджае свайму Мітрапаліту.

*ШОСТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР*

Правілам 20-м забараняе Япіскапам правіць ня толькі Багаслужбы, але гаварыць казаньні ў неналежучых да яго Епархіях, без дазволу епархіяльнага Япіскапа тае Епархіі. Калі-ж будзе стверджана, што нейкі Япіскап гэтае правіла зьневажае, то ён ня можа быць Япіскапам.

– *Кансысторыя* –